Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Намеснік галоўнага рэдактара
Усевалад Рагойша
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 19 660.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236 2083

# НАВІНЫ



Серада, 5 жніўня 1998 г. | № 80 | Кошт свабодны

**СВАБОДА**
Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Наша марка

*У Беларусі з'явіўся ўласны штрых-код*

Дагэтуль усе краіны СНД карысталіся расійскім штрых-кодам, які пачынаўся на 46. Цяпер высокая якасць тавараў беларускай вытворчасці будзе ахоўвацца ад падробкі кодам, які пачынаецца на 481. Першым прадпрыемствам, якое атрымала права паставіць на свой тавар беларускі штрых-код, стаў Барысаўскі завод медычных прэпаратаў.

Сістэма кадзіравання ЕАН была распрацаваная Еўрапейскай асацыяцыяй штрых-кодаў: код складаецца з 13-ці лічбаў, з якіх першыя дзве або тры вызначаюць краіну, дзе быў выраблены тавар.

**Міхась КАРПОВІЧ**

## Натарыусы пачакаюць

**Беларускія прыватныя натарыусы будуць працягваць сваю працу да 1 кастрычніка.**

Такое рашэнне было прынятае ў панядзелак на агульным сходзе членаў Беларускай натарыяльнай палаты. Першапачаткова натарыусы планавалі спыніць сваю дзейнасць з 1 жніўня, бо прэзідэнцкі ўказ аб спагнанні з іх «заднім чыслом» велізарных грашовых сумаў фактычна пазбаўляе натарыусаў магчымасці працаваць. Лукашэнка ж лічыць, што натарыусы павінны вярнуць у бюджэт значную частку «неабгрунтавана атрыманай дзяржпошліны».

Савет міністраў прыняў пастанову, згодна з якой з 1 кастрычніка ўводзяцца новыя натарыяльныя тарыфы. А спецыяльная міжведамасная камісія ўжо зрабіла пераразлік за мінулыя гады, і калі прыватныя натарыусы не вернуць дзяржаве грошы (а ад некаторых патрабуюць больш за мільярд рублёў), імі зоймуцца пракуратура і суды. Тым не менш натарыусы вырашылі пачакаць да кастрычніка.

**Язэп СІНІЦКІ**

## На мяжы злавілі 120 чалавек

**У дзяржаўным камітэце пагранічных войскаў Беларусі падвялі вынікі спецыяльнай пагранічнай аперацыі «Мяжа—ліпень'98". Памежнікі лічаць, што ім ёсць чым пахваліцца.**

Аперацыя праводзілася напрыканцы мінулага месяца сіламі пагранічных войскаў, камітэта дзяржаўнай бяспекі, міністэрства ўнутраных справаў і мытнага камітэта Беларусі і добраахвотных дружынаў. Падчас аперацыі было затрымана больш за 120 парушальнікаў граніцы, кожны другі з якіх прыехаў у Беларусь з краінаў Афрыкі і Азіі. Больш за 130 чалавек затрымліваліся за парушэнне пагранічнага рэжыму. Зафіксавана ўсяго 22 выпадкі кантрабанды.

Такія аперацыі, як паведаміў старшыня дзяржаўнага камітэта пагранічных войскаў Беларусі генерал-лейтэнант Аляксандр Паўлоўскі, будуць праводзіцца рэгулярна.

*БелаПАН*

## Беларускі рубель слабее з кожным днём

**Курс безнаяўнага долара менш чым за тыдзень вырас адразу на 15 тысяч беларускіх рублёў.**

Калі яшчэ ў мінулую сераду, 29 ліпеня, ён каштаваў у межах недзе 70—72 тысячы рублёў, то ўчора курс даходзіў да 84—86 тысяч рублёў.

Чарговы абвал курсу нацыянальнай валюты, на думку банкіраў, выкліканы шэрагам прычынаў. Асноўная — гэта канчатковая забарона з 17 жніўня экспарту шэрагу беларускіх тавараў за беларускія рублі. З гэтага часу тавары (у ліку якіх перш за ўсё тыя, якія карыстаюцца вялікім попытам на расійскім рынку) можна будзе прадаваць за мяжу выключна за цвёрдую валюту. Натуральна, што пры такой пастаноўцы пытання попыт на беларускія грошы хутка скарачаецца. Праз пару тыдняў яны будуць фактычна непатрэбныя нікому з замежных фірмаў.

За безнаяўным курсам долара ўверх пайшоў і наяўны курс. Ужо ў нядзелю на «чорным» (а значыць — рэальным) рынку долары куплялі па 63 тысячы рублёў.

Шмат будзе залежаць ад дзеянняў Нацыянальнага банка. Яшчэ ў траўні былі абвешчаныя планы Нацыянальнага банка па лібералізацыі валютнага рынку. Чакалася, што з 1 жніўня галоўны банк краіны здыме ўсе абмежаванні на гандаль наяўнай валютай праз банкаўскія абменныя пункты, а таксама на продаж беларускіх безнаяўных рублёў нерэзідэнтам. Нічога такога не здарылася.

**Алесь САДОЎСКІ**

## Новы сезон – новыя падаткі

**Мінская падатковая інспекцыя прапануе падвысіць стаўкі фіксаванага падатку на продаж некаторых тавараў прыватнымі прадпрымальнікамі і прадпрыемствамі гандлю.**

Як паведаміў прэзідэнт Беларускага саюза прадпрымальнікаў Уладзімір Карагін, адпаведная прапанова ўжо перададзеная ў Мінгарвыканкам. Цяпер розныя ўстановы праводзяць экспертызу. На думку Карагіна, можна чакаць увядзення новых ставак фіксаванага падатку ўжо напачатку восені.

У Мінскай падатковай інспекцыі адмовіліся паведаміць, якіх канкрэтна гандляроў і за якія тавары прымусяць плаціць больш, але зазначылі, што «ва ўсім мусіць быць справядлівасць». Чаму, мяркую, прадпрымальнікі, якія займаюцца вытворчасцю, мусяць плаціць больш падаткаў, чым гандляры — «чаўнакі»? У падатковай інспекцыі лічаць «ненармальнай» сённяшнюю сітуацыю, калі гандляры кнігамі плацяць падаткаў толькі 1 мінімальны заробак у месяц (на сённяшні дзень гэта 250.000 рублёў), а прыбыткі лічаць мільёнамі рублёў. Тое ж тычыцца прадаўцоў аўтамабільных запчастак, а таксама іхніх калегаў з рэчавых рынкаў, якія гандлююць адзеннем, абуткам, касметыкай і іншым.

Супрацоўнікі падатковай інспекцыі падкрэсліваюць: мэта зменаў — не ў тым, каб канчаткова зацісну́ць прадпрымальнікаў, а каб прымусіць іх плаціць «больш адэкватныя» падаткі.

**Міхась КАРПОВІЧ**

# Асцярожна: міліцыя страляе

**Нярэдка дзеля таго, каб спыніць машыну, вадзіцель якой спрабуе ўцячы ад супрацоўніка дзяржаўтаінспекцыі, супрацоўнікі міліцыі выкарыстоўваюць табельную зброю. Часам такая міліцэйская страляніна прыводзіць да цяжкіх наступстваў. Адкрываючы агонь па аўтамабілі, нашыя ахоўнікі парадку, відаць, не часта задумваюцца над тым, хто сядзіць за рулём: асабліва небяспечны злачынца ці проста падвыпіты лíхач. Аднак прыняты некалькі гадоў таму закон аб міліцыі дакладна агаворвае, у якіх сітуацыях і як трэба прымяняць зброю.**



*Міліцыянтам забараняецца выкарыстоўваць табельную зброю супраць жанчын, непаўналетніх, інвалідаў і некаторых іншых катэгорыяў грамадзян.*

Нядаўна, у пасёлку Калодзішчы пад Мінскам міліцыянты спынілі машыну прыватнага прадпрымальніка Ігара Свірскага. Ахоўнікі парадку падазравалі, што перад тым, як сесці за руль, Ігар выпіў шклянку віна. Пакуль у пастарунку міліцыянты праводзілі разбіральніцтва і афармлялі на Свірскага пратакол, у аддзяленне міліцыі прыехалі жонка затрыманага і яго непаўналетні сын Руслан.

Ігар праз жонку перадаў сыну ключы ад уласнай машыны, каб той адагнаў іх старэнькую «Аўдзі-80» у гараж. Сам аўтааматар сцвярджае, што і раней давяраў свайму 14-гадоваму сыну вадзіць машыну, таму быў упэўнены, што хлопец дасць сабе рады. На вачах міліцыянтаў падлетак сеў за руль і паехаў дахаты — і тут раптам нехта з міліцэйскіх начальнікаў даў каманду затрымаць машыну. У пагоню кінуўся міліцыянт у форме і ўзброены пісталетам оперупаўнаважаны ў цывільным. Па словах самога Руслана, ён заўважыў пагоню, але палічыў, што яго пераследуюць нейкія невядомыя, паколькі на міліцэйскай машыне не было ніякіх апазнавальных знакаў. Міліцыянты загналі машыну Руслана ў тупік, і да яе кінуўся опер у цывільным з пісталетам у руках.

Прычым, як сцвярджае Ігар Свірскі, гэты ахоўнік парадку быў добра знаёмы з яго сынам. Не хаваючы пісталета ў кабуру, міліцыянт пачаў выцягваць падлетка з салона аўтамабіля, і тут раздаўся стрэл — куля прабіла хлопцу шыю навылёт. Са скразным агнястрэльным раненнем Руслан тыдзень праляжаў у шпіталі. Прычым куля прайшла побач з соннай артэрыяй, і лекары гавораць, што хлопцу вельмі пашчасціла.

Як і належыць у такіх выпадках, пракуратура Мінскага раёна правяла праверку па факце выкарыстання міліцыянтам табельнай зброі і не знайшла ў яго дзеяннях перавышэння службовых паўнамоцтваў. Супрацоўнік пракуратуры, які праводзіў праверку, сказаў карэспандэнту НАВІНАЎ, што ў дадзенай сітуацыі меў месца ўсяго толькі «няшчасны выпадак». А наогул, пракуратура па кожным падобным выпадку праводзіць скрупулёзную праверку, і калі высвятляецца, што міліцыянт вінаваты, то яго абавязкова пакараюць. «Пакрываць такога «стралка» сабе даражэй», — запэўніў мяне гэты пракурорскі работнік.

Але ў якіх выпадках міліцыянт, які спрабуе спыніць машыну, можа адкрыць агонь і куды ён павінен цэліць? Закон аб міліцыі дапускае прымяненне зброі толькі ў крайніх выпадках, калі, напрыклад, за рулём знаходзіцца асабліва небяспечны злачынца. Але, зноў жа, галоўная мэта такіх стрэлаў — прымусіць злачынцу спыніцца, а не патрапіць у яго, таму аб'ектам прымянення зброі павінны быць не вадзіцель, а асноўныя вузлы аўтамабіля. Аднак на практыцы часта бывае інакш. Мы вырашылі пацікавіцца, а што мяркуюць наконт гэтай праблемы спецыялісты, якія ў нядаўнім мінулым рыхтавалі закон аб міліцыі.

Былы спікер Вярхоўнага Савета Мечыслаў Грыб, які ўзначальваў камісію па падрыхтоўцы гэтага закона, сцвярджае: супрацоўнікам міліцыі сапраўды нададзенае права прымяняць зброю — але выключна дзеля таго, каб спыніць машыну. Дазваляецца міліцыянтам страляць і ў выпадку, калі іхняму жыццю пагражае небяспека. Сп.Грыб нагадаў, што забараняецца выкарыстоўваць табельную зброю супраць жанчын, непаўналетніх, інвалідаў і некаторых іншых катэгорыяў грамадзян. Мечыслаў Грыб упэўнены, што дзеля таго, каб спыніць машыну з падпітым кіроўцам ці падлеткам, не абавязкова прымяняць зброю. У міліцыі дзеля гэтага ёсць іншыя сродкі — напрыклад, ланцугі з шыпамі. *«У часы маёй міліцэйскай маладосці прымяненне зброі лічылася надзвычайным здарэннем і табельны пісталет прымяняўся толькі ў крайніх выпадках. А некаторыя цяперашнія ахоўнікі парадку страляюць не задумваючыся аб наступствах»*, — сказаў былы спікер і нагадаў гісторыю, што здарылася некалькі гадоў таму ў Докшыцкім раёне. Участковы інспектар спрабаваў спыніць трактар, за рулём якога знаходзіўся п'яны трактарыст, і адкрыў агонь прама па кабіне машыны. У выніку была цяжка параненая маленькая дзяўчынка — дачка механізатара.

А вось дэпутат ВС Віктар Ганчар сам быў ахвярай міліцэйскай стралянiны. Нагадаем, што два гады таму машына, у якой ехаў Віктар са сваім сябрам і сакратаркай, была абстраляная паставым міліцыянтам з аўтамата Калашнікава, у выніку чаго маладая жанчына была параненая. Па афіцыйнай версіі ўладаў, ахоўнік парадку пачаў страляць, бо, быццам бы, прыкметы машыны Ганчара супадалі з апісаннем аўтамабіля небяспечнага злачынцы. *«Я спецыяліст у іншых галінах юрыспрудэнцыі, таму мне цяжка ацэньваць дзеянні міліцыянтаў у кожным выпадку выкарыстання імі зброі»*, — сказаў Віктар Ганчар.

Аднак Віктар Іосіфавіч упэўнены, што прымяняць зброю ахоўнікі парадку павінны толькі ў крайнім выпадку. *«Адкрываць стралянiну ў цэнтры горада, што пагражае жыццю многіх людзей, як гэта было ў маёй сітуацыі, — проста злачынна»*, — перакананы Віктар Ганчар.

Яго калега па Вярхоўным Савеце Дзмітрый Булахаў, які таксама займаўся распрацоўкай закона аб міліцыі, лічыць, што права прымяняць зброю ў міліцыянтаў быць павінна — як, зрэшты, і адказнасць за яе выкарыстанне. Булахаў (сам у мінулым супрацоўнік міліцыі) таксама лічыць, што калі міліцыянт і бярэцца за зброю, то павінен старацца, каб выпушчаная куля трапіла не ў чалавека. Праўда, на думку былога дэпутата, бываюць сітуацыі, калі ўсё прадугледзець вельмі цяжка. Калі, напрыклад, аперацыя па затрымцы небяспечнага злачынцы адбываецца ва ўмовах дрэннага надвор'я і кепскай бачнасці.

Булахаў, аднак, упэўнены, што галоўнае ў такіх сітуацыях — *«узровень агульнай культуры супрацоўніка міліцыі і яго інтэлектуальны патэнцыял»*. Міліцыянт павінен па магчымасці пралічваць усе наступствы выкарыстання зброі. На жаль, у апошнія гады на работу ў міліцыю пачалі прыходзіць людзі не вельмі абцяжараныя маральнымі прынцыпамі, сказаў Булахаў, а некаторыя вышэйшыя дзяржаўныя чыноўнікі сваімі дзеяннямі часта развязваюць такім людзям рукі.

Вось тады і здараюцца трагедыі.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Два палацы ў цэнтры Мінска

**Грувасткі будынак шэрага колеру ў самым цэнтры беларускай сталіцы прыцягвае ўвагу кожнага, хто праходзіць або праязджае праз Цэнтральную (Кастрычніцкую) плошчу. Хіба што моладзь, якая адпачывае ў Аляксандраўскім скверы каля фантана з хлопчыкам і лебедзем, настолькі прызвычаілася, што не звяртае ўвагі на гэты «саркафаг».**

Заўважна, што Палац рэспублікі не ўпісваецца ў архітэктуру гэтай часткі горада. Спецыялісты кажуць, што нездарма на старажытных будынках Верхняга горада з'явіліся металічныя дахі, а Аляксандраўскі сквер «упрыгожылі» ліхтары і порцікі з чырвонага бетону, такім чынам стараюцца «прывесці ў адпаведнасць» старое і новае.

Сам жа Палац ужо не хаваецца за агароджай. Цяпер там вядуцца інтэнсіўныя аддзелачныя работы: трэба паспець да 7 лістапада — даты, калі павінна адчыніцца першая чарга аб'екта.

Я пагутарыў з будаўнікамі, якія працуюць на будоўлі Палаца, і яны расказалі аб праекце «саркафага».

Цалкам Палац Рэспублікі плануюць увесці ў эксплуатацыю ў наступным годзе (можа здарыцца так, што гэтая падзея «выпадкова» супадзе з 45-годдзем «усенароднаабранага»). Паміж Палацам і музеем Вялікай Айчыннай вайны будуецца музычны фантан з каляровай падсветкай: форма і вышыня струменяў, а таксама колеры лямпачак будуць змяняцца.

Вышыня Палаца Рэспублікі складае 27 з паловай метраў — гэта адпавядае памерам стандартнага 9-павярховага дома. Пад зямлёй пабудаваныя яшчэ тры паверхі, і разам з «нулёвым» (цокальным) паверхам заглыбляюцца на 13 м 20 см.

У тую першую чаргу, адкрыццё якой плануецца 7 лістапада, уваходзіць, у прыватнасці, малая зала на 500 месцаў. У фае будзе працаваць невялікі дэкаратыўны фантан. Усяго ж у Палацы спраектавана шмат розных памяшканняў. Даводзіцца да ладу і Вялікая зала на 2.700 месцаў (трэба думаць, што менавіта тут будзе праходзіць чарговы «ўсебеларускі сход»), а да паслугаў «чэсных» журналістаў рыхтуюцца дзве прэсзалы на 100 і 200 месцаў.

Гэты будынак нездарма называецца Палацам: баляваць тут сапраўды можна будзе па-царску — у бары-рэстаране на 800(!) месцаў. А яшчэ тут будзе 3 кафэ і 6 бараў на розных паверхах. Аматарам прапануюць яшчэ і більярд у дзвюх вялізных залах. У планах архітэктары была і саўна. Потым вырашылі саўну адмяніць, але цяпер, па словах будаўнікоў, саўну ўсё ж будуць рабіць.

У праекце Палаца Рэспублікі прадугледжаны быў непасрэдны тунель на станцыю метро. Аднак, пасля чамусьці перадумалі, і, такім чынам, падземных хадоў з Палаца не будзе.

Дарэчы, няма выхаду ў метро, насуперак чуткам, і з рэзідэнцыі Лукашэнкі на К.Маркса, 38. Выхад таксама планаваўся, яго пачалі нават рабіць, але будоўлю прыпынілі і закансервавалі. Калі ж раз'юшаны эканамічным росквітам электарат раптам возьме ў аблогу рэзідэнцыю, то ўцячы з яе Лукашэнка зможа па двух падземных хадах. Адзін з іх мае выхад да Свіслачы ў парк імя Горкага, за будынкам Нацыянальнай бібліятэкі. Другі ход вядзе з рэзідэнцыі на вуліцу Першамайскую, да будынка гарадской паліклінікі № 6. Абодва падземныя хады дагледае спецыяльны чалавек. Ён кожны дзень спускаецца туды і робіць праверку: ці працуе электрычнасць, ці ўсё ў парадку з вентыляцыяй. А вось з Палаца Рэспублікі, калі раптам што, уцякаць давядзецца хіба на верталёце.

Два будынкі, якія стаяць насупраць, маюць рознае функцыянальнае прызначэнне. Аднак абодва яны належаць рэжыму і, на жаль, сталі яго сімваламі.

**Дзмітрый АБРАМЫЧАЎ**

*РОЗГАЛАС*

# «Справа Кудзінава» ў экспартным варыянце

**Беларускі праваабарончы цэнтр «Вясна-96» выдаў кнігу «Справа Кудзінава», у якой сабраныя шматлікія дакументы, што датычаць крымінальнай справы Уладзіміра Кудзінава — вядомага івацэвіцкага прадпрымальніка і дэпутата Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання.**




Наша газета дастаткова падрабязна асвятляла гэтую крымінальную справу, таму нагадаем толькі асноўнае. Уладзімір Кудзінаў, стваральнік аднаго з буйнейшых прадпрыемстваў у Брэсцкай вобласці — гандлёва-прамысловай фірмы «Івацэвічы», у 1995 годзе стаў дэпутатам Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання, дзе ўвайшоў у фракцыю «Грамадзянскае дзеянне». У парламенце Кудзінаў актыўна выступаў за імпічмент Аляксандру Лукашэнку. У лютым 1997 года быў арыштаваны нібыта за спробу дачы хабару міліцыянту і асуджаны на сем гадоў узмоцненага рэжыму. Назіральнікі адзначалі шматлікія парушэнні падчас правядзення следства і судовага працэсу.

У прадмове да кнігі гаворыцца, што *«справа Уладзіміра Кудзінава — тыповы прыклад расправы дзяржавы над непажаданымі яму людзьмі, што адыгрывалі прыкметную ролю ў развіцці беларускага грамадства»*. Як паведаміў кіраўнік «Вясны-96» Алесь Бяляцкі, «Справа Кудзінава» — толькі першае з шэрагу выданняў, якія цэнтр плануе падрыхтаваць у бліжэйшы час. У планах праваабарончага цэнтра «Вясна-96» — выданне літаратуры пра «справу Клімава», «справу Старавойтава»... Па словах Алеся Бяляцкага, кніга будзе распаўсюджвацца не толькі ў Беларусі, а і за яе межамі, у тым ліку — у Расіі. Тым болей, што амаль усе матэрыялы ў кнізе прыведзеныя па-руску. «Справа Кудзінава» надрукаваная ў Расіі накладам 10.000 асобнікаў.



*На здымку: жонка Уладзіміра Кудзінава Зоя і дочкі Наталля і Зося неўзабаве пасля арышту дэпутата. (Фота з кнігі).*

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

## На Савецкай знікла вада

**Гэтым летам з дажджамі ўсё ў парадку, але вады ў некаторых месцах усё адно не хапае. Па розных прычынах.**

Напрыклад, у горадзе Астраўцы, што ў Гродзенскай вобласці, спусцілі дзеля рамонту вадасховішча, і на вуліцы Савецкай у студнях вада знікла. Жыхарам даводзілася насіць яе вёдрамі здалёк. Пачалі скардзіцца, але начальства адказала: па нашых разліках вады павінна хапаць, мабыць, зашмат агароды паліваеце. А нашто ж іх паліваць, калі дажджы ідуць?— разгубіліся людзі. Але што спрачацца, калі начальства ў нас заўжды мае рацыю.

Вечна не хапае вады ў Навагрудку, які стаіць на пагорках. Праз гэта і прамысловасць не асабліва развівалася, не цягнуць жа было трубы за 25 кіламетраў з Нёмана. У горадзе, як вядома, знаходзіцца і адна з самых высокіх беларускіх гор «Замкавая» — 323 метры па-над узроўнем мора. Ужо тры гады, як закапаліся ў зямлю будаўнікі, новы водазабор ніяк не пабудуюць. Справа робіцца скандалам пакуль мясцовага маштабу. Начальства пачынае абяцаць, што першую чаргу закончаць у наступным годзе, але будаўнікі гавораць: дайце 100 мільярдаў рублёў — і за тры гады зробім.

Горад Бярозаўка знаходзіцца фактычна на беразе Нёмана. А з вадой таксама праблемы, не хапае. Тут на прыкладку водаправода патрэбна менш — 800 мільёнаў, але іх таксама няма. Хіба што параіць людзям з Нёмана ваду насіць?

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

## Прапалі дарожныя знакі

**У панядзелак слонімская дарожная служба пачала шукаць 500 долараў.**

Рэч у тым, што за горадам на шашы Слонім — Зэльва на працягу некалькіх кіламетраў знікла больш за 20 бетонных трохметровых слупоў з дарожнымі знакамі. А за ўстаноўку кожнага было заплачана, калі перавесці ў валюту, па 25 долараў. Здарэнне адбылося пасля святкавання дня паветраных дэсантнікаў. Дарожнікі падазраюць, што дзве падзеі могуць быць паміж сабою звязаныя, але доказаў у іх пакуль няма.

**Галіна ВОЙЦІК**



*ПРОИЗВОДСТВО*

# Спуск с горы

**Официальные пропагандисты утверждают: период президентского правления в Беларуси распадается на две фазы: стабилизационную (до середины 1996 года) и фазу ускоряющегося экономического роста (после). Тем не менее нынешним летом, в четвертую годовщину «батьковщины» на Беларуси, объемы промышленного и сельскохозяйственного производства значительно уступают уровню прошлых лет.**

Следует отметить, что в советские времена БССР специализировалась на производстве конечной продукции, и наша экономика как нельзя лучше была приспособлена к условиям социализма с его неизбывным дефицитом. Поэтому в перестроечные времена, когда дефицит принял формы тотального товарного голода, белорусская экономика только прибавляла в весе. И трактора, минские телевизоры, и минский трикотаж, и новополоцкий полиэтилен — все шло нарасхват. И когда в СССР за 1989 — 1991 гг. падение национального дохода достигло 33% (уровень великой американской депрессии), в БССР ничего подобного не было.

Более того, стабилизационные программы, разрабатываемые в Кремле правительством Рыжкова, а затем и Павлова, рассматривали БССР в качестве одного из локомотивов, который вывезет весь Союз. Но после знаменитого обмена крупных купюр, которое вовсе не выявило ожидавшихся значительных «нетрудовых доходов» у нашего народа, и после весеннего павловского повышения цен стало ясно (это в первую очередь показали вышедшие на улицы минские рабочие), что подобные представления о возможном выходе из кризиса несколько оторваны от жизни. Хотя в том же 1991 году падение объемов промышленного и сельскохозяйственного производства в Беларуси было совсем незначительным: ВНП снизился на 2%, а национальный доход — на 3%.




*Пенсионеров можно понять. Они всю жизнь работали, строили социализм, а остались почти что у разбитого корыта.*

В других регионах Союза ситуация была просто угрожающей, центральное правительство не знало, чем заткнуть прорехи в снабжении населения и предприятий, а БССР чуть ли не автоматически покоряла «пики коммунизма». В то время не только оппозиция, выступавшая еще в статусе «неформалов», но и официальное руководство республики чуть было не перешли на язык категорических ультиматумов в отношениях с Москвой. Правда, первые (не совсем, кстати, безосновательно) считали, что в диалоге с Кремлем могут добиться суверенитета, а вторые рассчитывали лишь на большее внимание и большие ассигнования.

С тех пор многое изменилось в идеологии, политике и жизни, но созданная модель отношений, в основу которой положены взаимные интересы не только стран, но и отдельных предприятий, осталась принципиально неизменной. Бесспорно, например, что БССР во имя дружбы народов перекачала почти всю свою нефть в страны соцлагеря по нефтепроводу «Дружба». Поэтому сегодня мы не имеем собственных ресурсов, чтобы пережить смутное время без посторонней помощи. Бесспорно, что БССР была крупнейшей станкостроительной страной мира, но такой она больше никогда не станет. Бесспорно, что производство мяса в колхозах и совхозах снизилось почти на 2/3, но количество произведенной колбасы нарастает.

За счет чего?..

**Константин СКУРАТОВИЧ**

# Похороны, каких еще не было

**Так не хоронят даже министров и президентов. Но именно так хоронят предводителей цыган. В последнее воскресенье июля в городе Сороки — неофициальной цыганской столице Молдовы — все цыгане края простились с тем, имя которому было Мирча Черари, а высокое призвание и признание — булибаша, то есть предводитель всех цыган.**

Лидер одного из древнейших и драматичнейших этносов Европы умер от сахарного диабета и не дожил до 60-ти. Но каждый, кто жил в Сороках, за сотни и даже тысячи километров от них, мог на протяжении почти двух недель проститься с цыганским бароном Молдовы, — именно столько времени тело усопшего было открыто для прощания. Целая команда медиков республиканской клиники из Кишинева постоянно трудилась над тем, чтобы создать для него оптимальную температуру. В комнате, где лежал покойник, работало несколько кондиционеров и каждый день использовалось около тонны льда. В церемонии погребения Мирчи Черари приняли участие тысячи людей, а свои делегации прислали в Сороки ромы Румынии, России, Венгрии, Италии и Польши.

Покойный 25 лет состоял в коммунистической партии и считался одним из богатейших людей Молдовы, а потому на похоронах можно было увидеть многих известных представителей власти, бизнеса и культуры. Мирчу Черари не только уважали, но и побаивались.

Совершенно необычайными были церемония и весь обряд погребения цыганского булибаши. Склеп, в котором будет покоиться прах Мирчи Черари, отделан белым и зеленым мрамором, привезеным из Индии, а сам гроб заказан в Италии и сделан из ценнейших пород дерева. Говорят, что стоит он 14 тысяч долларов. Да и склеп — это скорее своеобразный мавзолей, где вместе с покойником будут находиться такие его вещи, как компьютер, факс и даже сотовый телефон. Богатые родичи и наследники М.Черари позаботились, чтобы в баре, расположенном тоже рядом с прахом покойного, присутствовали его любимые напитки — армянские вина, шотландские виски, водки *Smirnoff* и *Finlandia*.

**Василий КЕЛЬМЕНЕЦ**

# Дело Клинтона продолжается

*Но оно всем уже изрядно надоело*

Президент США Билл Клинтон 17 августа в очередной раз будет давать показания прокуратуре. В прямом телевизионном эфире. Видеозапись этого акта будут изучать разнообразные комиссии.

Бригада спецпрокурора К.Старра расследует целый ряд сомнительных эпизодов с участием главы администрации США. На первое место среди них в последнее время выдвинулся вопрос о том, не поддерживал ли Б.Клинтон интимных отношений со стажеркой Белого дома М.Левински и, самое главное, не склонял ли ее к лжесвидетельству. Если попытки такого понуждения с его стороны будут доказаны, над президентом нависнет реальная угроза импичмента.

Ранее и Б.Клинтон, и М.Левински отрицали наличие между ними интимной связи. Теперь же молодая женщина утверждает, что не только поддерживала с президентом сексуальные отношения, но и обсуждала с ним вопрос о том, как лучше замести следы. По словам осведомленных юристов, именно такие показания она согласилась дать помощникам К.Старра в обмен на полный иммунитет от судебного преследования (законы США предусматривают такую возможность). Кроме того, судебная неприкосновенность была предоставлена и матери Левински, которая якобы являлась поверенной во всех «амурных делах» дочери. Договоренность о такой сделке была достигнута ее адвокатами и представителями прокуратуры.

Согласно просочившейся в печать информации, М.Левински по-прежнему стоит на том, что Б.Клинтон никогда прямо не уговаривал ее лгать под присягой. Однако она признает, что между ними были беседы о том, как лучше «отвести глаза» окружающим. Кроме того, по ее словам, президент предлагал ей «способы уклонения от сотрудничества с юристами». Попытки создать препятствия отправлению правосудия рассматриваются в США как тяжкое преступление. Если показания М.Левински соответствуют действительности, ее признания существенно усложнят защиту Б.Клинтона, поскольку вступят в прямое противоречие с показаниями президента, данными им ранее под присягой.

Несмотря на такой поворот событий, реакция Белого дома на эти известия была вполне доброжелательной. Его пресс-секретарь М.Маккэрри заявил журналистам, что «президент доволен, что у Моники Левински все улаживается». Примечателен еще один факт. В США все чаще появляются признаки того, что длящееся уже не один год расследование К.Старра стало надоедать даже политическим противникам нынешней администрации. Любящие считать деньги американцы говорят, что «дело Клинтона» слишком дорого стоит.



*Биллу Клинтону есть о чем задуматься.*

В частности, председатель сенатского юридического комитета республиканец О.Хэтч отметил, что опасность попасть под следствие по сугубо личным делам «становится препятствием для прихода хороших людей на государственную службу». К.Старр истратил уже 40 миллионов долларов и пришел к результатам, которые были известны «еще три года назад». А конгрессмен-демократ П.Лихи был более чем краток: «Пора сматывать удочки и расходиться по домам».

А уж тем более эта вся возня надоела в Европе. Теперь в «секс-скандале» появилось и грязное белье в прямом смысле слова: мисс Левински передала на экспертизу свое платье, на котором эксперты ФБР будут искать «органические субстанции», могущие принадлежать Клинтону. «Если эта женщина в течение нескольких месяцев ни разу не стирала свое платье, я больше не намерена о ней вспоминать!» — эмоционально воскликнула в телеэфире одна экспансивная французская журналистка.

И это — правильно. Пусть американцы разбирают свое белье сами.

**Михаил ГРИГОРЬЕВ**

*РОССИЯ - ЧЕЧНЯ*

# Кремль решил помочь Масхадову

*О чем говорили в Назрани*

В минувшую субботу премьер-министр РФ Сергей Кириенко встретился в Назрани с президентом Чечни Асланом Масхадовым. Как и следовало ожидать, встреча, которая должна была по замыслу означать переход России к новой политике по отношению к Чечне, носила приблизительно тот же характер, что и встреча президента РФ Б.Ельцина со старейшинами Кавказа, то есть показательный. На причинах, вынудивших Москву и Грозный сесть за стол переговоров, стоит остановиться особо.

## Встреча и ее итоги

Встреча Кириенко с Масхадовым, прошедшая в обстановке строгой секретности, не завершилась ни подписанием сколь бы то ни было важных документов, ни принятием эпохальных для Чечни или России решений. Статус и политическое будущее Ичкерии на встрече, естественно, не обсуждались: Кириенко отнюдь не был уполномочен дать ответ на самый наболевший чеченский вопрос о независимости. Речь шла скорее о «поиске подходов» к решению чеченской проблемы. Основное внимание было сосредоточено на двух блоках проблем: обеспечение мира и стабильности в Чечне и на Северном Кавказе в целом, а также решение социально-экономических проблем и выполнение сторонами ранее подписанных договоренностей.

Тем не менее кое-что новое и несомненно важное в ходе встречи все-таки прозвучало. Прежде всего российская сторона выразила всемерную готовность поддержать чеченского президента в его борьбе с экстремизмом. Чему, впрочем, удивляться не следует — Россия кровно заинтересована в сохранении фигуры Масхадова, который в отличие от прочих чеченских лидеров по крайней мере легитимен и предсказуем, а следовательно, представляет собой для Кремля наименьшее из всех возможных зол.

Во-вторых, было признано также, что Россия обязана и готова пойти навстречу Чечне в разрешении ее экономических проблем (правда, не совсем понятно, где она изыщет на это резервы). Шла речь и о придании в перспективе Чечне статуса особой экономической зоны по образцу Калининградской области. Вот, собственно, и весь итог назранской встречи.

## О природе вещей

Причин, по которым бесконечно долго откладывавшаяся встреча Масхадова с премьер-министром России наконец состоялась, несколько, и они заслуживают особого внимания. Первая — Москва просто обязана была отреагировать на недавнее покушение на президента Чечни и заверить его в своей поддержке. Вторая — и, думается, самая главная — заключается в том, что в настоящий момент кавказскую карту разыгрывают четыре влиятельных российских политика, образующих на удивление сплоченную, а главное, на редкость боеспособную команду. Речь идет о недавнем обращении к правительству РФ В.Черномырдина, Б.Березовского, А.Лебедя и М.Шаймиева, в котором содержится гневный призыв выработать наконец ясную позицию политики России по отношению к Чечне и Северному Кавказу в целом.

Команда весьма «своевременно» напомнила правительству (читай Ельцину) о том, что Россия более не вправе не реагировать на день ото дня ухудшающуюся обстановку в Чечне. Действительно, гражданская война в республике, о неизбежности которой говорилось то и дело, фактически уже началась. В результате активизации так называемых ваххабитов, не говоря уже о набившем оскомину разгуле преступности и клановых внутричеченских раз

*Аслан Масхадов.*

борках, Россия стремительно теряет свое и без того шаткое влияние в Северокавказском регионе. Собственно, понимая необходимость немедленно отреагировать на это заявление, Ельцин и послал С.Кириенко в Грозный.

## Кому перешел дорогу Масхадов

События последних недель — вооруженная стычка в Гудермесе и последовавшее за ней покушение на Масхадова — как нельзя убедительнее показали, что создавать видимость нормального функционирования власти, не говоря уже о единстве чеченского народа, президент Чечни более не в силах. Масхадов, оказавшись в полном одиночестве перед лицом надвигающейся гражданской войны, решился наконец открытым текстом заговорить о причинах раскола в республике и обратить свой взор на Россию (правда, с оговорками). Однако сколько бы ни заявлял президент о немедленном принятии жестких мер по наведению порядка, реальная власть в Чечне не принадлежит отнюдь не ему, да и, по большому счету, никогда ему и не принадлежала.

Вся беда в том, что действительная военная и экономическая мощь сосредоточена в основном в руках бывших полевых командиров, которые по окончании войны разделили территорию Чечни на подконтрольные районы и «приватизировали» на своих участках нефтяные вышки и многочисленные нелегальные отводы от проходящего через Чечню трубопровода. По свидетельству очевидцев, фактически каждый полевой командир в контролируемом им районе имеет свои плантации и заводы по производству наркотиков. Бойцы же добросовестно выполняют функции охранников вверенного «имущества» от конкурентов. Собственно, на выручку от продажи наркотиков (в основном на российском рынке) и средства от бизнеса на заложниках и живут чеченские формирования.

До недавнего времени такая ситуация устраивала всех. Однако в июне этого года президент заговорил об опасности наркобизнеса и отнес его к разряду наиболее тяжких преступлений, наряду с бизнесом на заложниках и кражами нефти. Результат предпринятых им действий, нанесших удар по интересам наркобаронов, не заставил себя ждать. По некоторым данным, именно этими силами и было инициировано неудавшееся покушение. Полевые командиры вполне справедливо расценили действия президента как попытку Грозного лишить их финансовой платформы. С чем клановые лидеры согласиться никак не могли.

## Ваххабиты

Не меньшую опасность для режима Масхадова представляют и ваххабиты, хотя суть их претензий к президенту заключается в другом. Для начала несколько слов о них. Ваххабизм представляет собой религиозно-политическое движение в суннитском исламе. Особое значение ваххабиты уделяют джихаду — священной войне — и приоритету духовной власти. Требуют строжайшего следования канонам ислама, изложенным в Коране. Страной, где ваххабизм является официальной идеологией, является Саудовская Аравия. Широко распространен ваххабизм в Индии, Афганистане и некоторых африканских странах. Сторонники течения проповедуют идеи создания единого мусульманского мира. Ваххабизм является и основной идеологией движения Талибан.

По сути, течение представляет собой этакий гремучий сплав идей ислама, социализма и национализма. Весьма примечательно, что некоторые из лидеров ваххабитов уверены в том, что падение коммунистической идеологии позволит ваххабизму заполнить идеологический вакуум. В общем, классические представители исламского фундаментализма. Конечной своей целью ваххабиты провозглашают создание фундаменталистского государства на всей территории Кавказа.

Лидеры чеченских ваххабитов неуловимы и загадочны. По некоторым данным, к приверженцам этого течения, но отнюдь не руководителям, относятся и известный чеченский полевой командир гражданин Иордании Хаттаб (сам, кстати, эту причастность упорно отрицающий), и экс-президент Чечни З.Яндарбиев, а также целый ряд представителей властных структур, в том числе и министр иностранных дел Чечни Мовлади Удугов. Так что поддержку ваххабиты имеют на самом высоком уровне. Уровень же этот в свою очередь заинтересован во властном переделе.

Нет сомнений в том, что и Москва, и Грозный боятся сейчас одного — консолидации бандитских кланов под знаменами ваххабизма с целью свержения режима Масхадова. Ваххабитам дискредитация режима Масхадова выгодна, поскольку на таком политическом фоне будет проще начать создание фундаменталистского государства с его строгими устоями. Полевым командирам важно, чтобы официальная власть более не мешала их «бизнесу». Если это произойдет, Россия потеряет на Кавказе все и словосочетание «политика России на Кавказе» станет пустым звуком. Надо полагать, что именно угроза такой консолидации и стала главной темой закрытого разговора между Масхадовым и Кириенко. Исходя из этого, можно предположить, что и Масхадов, и Ельцин попытаются какое-то время плыть в одной лодке.

## Был бы повод...

Примечательно, что назранскую встречу не оставил без внимания мэр Москвы Ю.Лужков, заявления и действия которого в последнее время явно выходят за рамки регионального политика (оно и понятно, не за горами президентские выборы). Сразу же после встречи он не преминул обнародовать свою позицию по чеченскому вопросу, заявив, что Чечне нужно предоставить независимость. Однако, по мнению Лужкова, прежде чем ставить вопрос о предоставлении независимости Чеченской республике, нужно решить проблемы русскоязычного населения, четкого определения границ, введения визового режима, то есть обговорить все атрибуты независимого существования Российской Федерации и Чечни.

Не осталась в стороне и оппозиция. Так, заявление о возможном предоставлении Чечне статуса особой экономической зоны вызвало резкую критику председателя комитета Госдумы по безопасности Виктора Илюхина. Он заявил, что подобное решение приведет к «пересмотру территориального устройства РФ и фактическому отторжению части территории суверенного государства». Помимо этого оно крайне опасно для юга России. По мнению Илюхина, по опыту других свободных экономических зон можно сказать, что Чечня «станет преступной зоной, где будут отмываться деньги, свободно ходить наркотики, потому что со стороны российских федеральных структур и служб никакого контроля не будет».

На что, впрочем, можно высказать контраргумент — а что, сейчас контроль есть?

**Дмитрий ЛЫЧКОВСКИЙ**

# Беларускі Інтэрнэт

Інтэрнэт і ў Беларусі становіцца моднай з'явай і папулярнай праявай камп'ютэрнай рэальнасці. Літары *WWW*, з якіх пачынаюцца ўсе інтэрнэтаўскія адрасы, у скарачэнні азначаюць *World-Wide Web* — сусветная павуціна. Хоць у нас пакуль няма такога росквіту, як у Маскве ці ў Кіеве, але і беларусы паціху з'яўляюцца ў гэтай павуціне. А яна накладвае свой адбітак і на беларускую рэальнасць.

## Дзяржаўная манаполія

Інтэрнэт — гэта перш за ўсё сувязь. Залезці ў еўрапейскі ці амерыканскі камп'ютэр і прагледзець размешчаную на ім інфармацыю магчыма толькі ў выпадку, калі ёсць адпаведныя каналы сувязі. І ў беларускай рэальнасці гэта — адна з найбольш сур'ёзных праблемаў.

З аднаго боку, у Інтэрнэт можна адшукаць любую інфармацыю — палітычныя навіны, свецкую хроніку, практычныя парады па арганізацыі тэрарыстычных актаў і вырабу наркотыкаў, не гаворачы ўжо пра надзвычай распаўсюджаную парнаграфію (лічыцца, што порна займае да 60% ад усіх рэсурсаў Інтэрнэта). Увогуле, Інтэрнэт лічыцца адной з самых моцных праяваў свабоды чалавека. Але, з другога боку, у Беларусі гэтая свабода мае свае тэхнічныя межы.

Беларусь падключаная да свету толькі праз некалькі каналаў сувязі. І абсалютная большасць з іх належыць дзяржаўнаму прадпрыемству Белтэлекам, які падтрымлівае існаванне нацыянальнай камп'ютэрнай сеткі — БелПак. Гэта самы галоўны беларускі правайдэр (так называюцца кампаніі, якія прапануюць доступ да Інтэрнэта). Акрамя гэтай дзяржаўнай структуры, існуе яшчэ шэраг правайдэраў. Усяго ў Беларусі на такую дзейнасць, па пэўных звестках, выдадзена каля 20 ліцэнзіяў. Але рэальныя паслугі аказваюць прыкладна 5 фірмаў. Найбольш заўважныя з іх — «Адкрыты кантакт», «*Solo*» і *NSYS*. Але яны — другасныя правайдэры, якія арандуюць каналы ў БелПака і гандлююць імі ў розніцу. Ёсць звесткі, што фірмы маюць уласныя, але абмежаваныя па аб'ёмах, каналы сувязі, аднак гэта не афішуецца.

Зразумела, што такая манаполія Белтэлекама на выхад у Інтэрнэт азначае, што пры жаданні ўлады на нейкі час могуць даволі лёгка і проста адрэзаць Беларусь ад сусветнай сеткі.

Разбурыць існуючую манаполію на доступ да Інтэрнэта пакуль практычна немагчыма. Гэта каштавала б вельмі дорага. Зрабіць гэта не дазваляе не столькі адсутнасць грошай у правайдэраў і пакуль невялікі попыт на Інтэрнэт, колькі вельмі цяжкі і амаль непераадольны для кампаніяў працэс атрымання дазволаў і ўзгадненняў.

А праблемы з каналамі паціху нарастаюць. Удзень выхад у Інтэрнэт праз перагружаныя каналы большасці правайдэраў з'яўляецца сур'ёзнай праблемай. Хуткасць абмену інфармацыяй нізкая. Фірмы і прыватныя асобы вымушаныя чакаць у чарзе, каб падключыцца. Прапускная здольнасць амаль усіх існуючых каналаў сувязі знаходзіцца на мяжы.

## Кошты

Яшчэ адной праблемай далейшага развіцця беларускага Інтэрнэта з'яўляюцца кошты для карыстальнікаў. Інтэрнэт належыць да не вельмі танных радасцяў жыцця.

Па-першае, для таго каб вылезці ў *WWW*, неабходна мець камп'ютэр. Новая машына, дастатковая для працы ў Інтэрнэт, будзе каштаваць каля 600 долараў (няновая абыдзецца танней). Пажадана каб на вашым камп'ютэры працавала *Windows 95*, калі вы не жадаеце шукаць спецыяльнае праграмнае забеспячэнне і вырашаць шэраг іншых праблемаў. Шпацыр па сусветнай павуціне ажыццяўляецца праз тэлефонную лінію, пры дапамозе такой камп'ютэрнай прылады, як мадэм, які каштуе ад 75—80 долараў і вышэй.

Калі ўсё гэта ёсць, можна ісці да правайдэра і заключаць дамову на падключэнне да Інтэрнэта. Для прыватных асобаў у БелПаку падключэнне напрыканцы ліпеня каштавала 825 тыс. рублёў. Яшчэ 660 тысячаў возьмуць за настройку. Да таго ж кожны месяц трэба плаціць абаненцкую плату (330 тыс. рублёў) і разам з гэтым аплачваць кожную хвіліну блукання ў Інтэрнэце. Гадзіна працы ў *WWW* удзень каштуе каля 80.000 рублёў, ноччу (з 21:00 да 9:00 раніцы) — каля 60.000 рублёў. Найбольш танна абыходзіцца праца ў выхадныя і святочныя дні — каля 40.000 рублёў за гадзіну. Заўважым, што ў бліжэйшы час чакаецца падаражанне паслуг БелПака (прыкладна на 30%).

Трэба заўважыць, што ў падключэнні да сістэмы БелПак існуюць некаторыя абмежаванні. Напрыклад, БелПак перад падключэннем патрабуе рэгістраваць мадэм, а рэгістрацыі падлягаюць толькі мадэмы з афіцыйнымі сертыфікатамі. Да таго ж, дамова можа быць заключаная толькі з той асобай, на чыё імя зарэгістраваны тэлефон.

Іншыя правайдэры бяруць за доступ у Інтэрнэт больш значныя сумы: звычайна іх пагадзінныя тарыфы ў паўтара раза вышэйшыя. Але ў прыватных кампаніях менш бюракратычнай валакіты, да таго ж, некаторыя правайдэры прадастаўляюць дадатковыя паслугі, якія не мае БелПак. Зрэшты, па ацэнках спецыялістаў, штомесячныя плацяжы сярэдняга беларускага прыватнага карыстальніка Інтэрнэта складаюць 20—30 долараў.

Пахвілінная аплата не спрыяе папулярнасці Інтэрнэта. Беларусі пакуль далёка да Расіі і заходніх краінаў, дзе існуе так званая сістэма абаненцкай платы: заплаціў, скажам, 40 долараў — і працуй без абмежаванняў часу. Такая ж практыка існуе ў ЗША, толькі там гэта каштуе яшчэ танней.

Зразумела, што пры выбары правайдэра не ўсё залежыць толькі ад аплаты. Трэба глядзець на кошт і колькасць дадатковых паслугаў, але яшчэ больш важным з'яўляецца хуткасць працы. Каналы сувязі, як згадвалася вышэй, абмежаваныя. На думку спецыялістаў, хуткасць для карыстальнікаў пакуль можа прапанаваць БелПак ды *NSYS*. У іншых актыўных правайдэраў колькасць кліентаў залішне вялікая: каналы сувязі не спраўляюцца.

Але і той жа манапаліст БелПак мае шмат праблемаў — да яго бывае цяжка дазваніцца ўдзень, каб падключыцца да Інтэрнэта. А электронная пошта ў БелПаку мае вельмі нязручную сістэму аплаты — трэба плаціць за атрыманую пошту. Але ж там можа быць не толькі адрасаваная вам пошта, але і звычайная рэклама.



*Лічыцца, што эротыка і парнаграфія займаюць да 60% усіх рэсурсаў Інтэрнэта.*

## Першае знаёмства

Для таго каб паглядзець, што з сябе ўяўляе Інтэрнэт і папрацаваць з ім некалькі гадзінаў, не абавязкова купляць камп'ютэр. У Мінску, па-першае, існуюць пункты калектыўнага карыстання Інтэрнэтам. Па-другое, нядаўна, на пачатку лета адчынілася першае Інтэрнэт-кафэ.

Пункты калектыўнага карыстання знаходзяцца на шэрагу аддзяленняў, пунктах міжнароднай сувязі. У кабінцы стаіць самы звычайны камп'ютэр, падключаны да Інтэрнэта. Для таго, каб папрацаваць, трэба заплаціць толькі за час працы па тарыфах БелПака.

Яшчэ танней будзе каштаваць праца ў Інтэрнэт-кафэ. Рэч у тым, што блуканне па Інтэрнэце ў кафэ пакуль што не каштуе нічога. Плату плануецца ўвесці толькі ў пачатку восені ў памеры 90.000 рублёў за гадзіну. Знаходзіцца гэтае кафэ насупраць універсама «Рыга», у адным з інтэрнатаў БПА (Сурганава, 47, корпус 5) у кафэ пад назвай «Выпускнік». Насупраць барнай стойкі, адразу ля ўвахода, стаяць 4 камп'ютэры, тры з якіх прапануюцца для кліентаў. Працуе Інтэрнэт-кафэ з 2 гадзінаў дня да 23:00. Абстаноўка там пакуль далёкая ад утульнасці, якой адрозніваюцца замежныя Інтэрнэт-кафэ, але месца становіцца папулярным. Звычайна там бавяць час студэнты, перш за ўсе замежныя. Зручна: калі што, можна пракансультавацца ў чалавека, які наглядае за камп'ютэрамі. Дарэчы, «халява» тут адносная: падчас блукання па сусветнай павуціне пажадана нешта заказаць у бары.

Зрэшты, пэўныя камп'ютэрныя фірмы маюць планы да пачатку новага года адчыніць у Мінску яшчэ некалькі Інтэрнэт-кафэ.

## Колькасць

Першы выхад у Інтэрнэт беларусы атрымалі напрыканцы 1994 года праз Варшаву. Тады Беларуская універсітэцкая камп'ютэрная сетка *UNIBEL* была падключаная да Варшаўскай сеткі *NASK*. І толькі пазней, праз нейкі час адчыніў свае каналы на Інтэрнэт Белтэлекам.

Цяжка падлічыць, колькі дакладна беларусаў карыстаюцца Інтэрнэтам. Па прыкладных падліках адных спецыялістаў, выхад у Інтэрнэт маюць 4—5 тыс. беларусаў, па іншых падліках — сутыкаліся з Інтэрнэтам 40.000 чалавек.

Падлічыць гэта з дакладнасцю немагчыма, але ўсе спецыялісты гаворац аб адным: колькасць карыстальнікаў Інтэрнэта пакуль не паднялася да той «крытычнай масы», якая б забяспечыла хуткае развіццё гэтага бізнесу.

Тым не менш, Інтэрнэт паціху павялічвае колькасць сваіх прыхільнікаў. Ужо можна гаварыць пра сярэдняга беларускага карыстальніка Інтэрнэта. Звычайна гэта альбо студэнт, які мае доступ да Інтэрнэта праз універсітэцкія камп'ютэры, альбо супрацоўнік больш-менш вялікай фірмы (звычайна, звязанай з інфармацыйнымі тэхналогіямі) ці банкаўскі работнік. Яму не больш за 30 гадоў і ён мае сярэдні, па беларускіх мерках, узровень даходаў. Прыватных карыстальнікаў у Беларусі пакуль вельмі мала. Абсалютная большасць карыстальнікаў Інтэрнэта — мінчане, хоць доступ да сусветнай сеткі маюць жыхары 22 беларускіх гарадоў.

## Мода

Інтэрнэт, які паціху змяняе жыццё заходніх краінаў, паступова становіцца (ці ўжо стаў) і ў Беларусі даволі моднай з'явай. З'яўляюцца нават групоўкі людзей, якіх ён аб'ядноўвае.

Звычайны карыстальнік проста блукае па Інтэрнэце і цудоўна абыходзіцца без размоваў з сабе падобнымі. Але некаторыя залазяць туды толькі для таго, каб паразмаўляць з іншымі людзьмі. Размовы адбываюцца на так званых чатах (ад ангельскага *chat*) — спецыяльных старонках, куды можна напісаць паведамленне і ўбачыць яго на экране камп'ютэра праз некалькі секундаў. Адначасова яго ўбачаць і іншыя «чатнікі», якія ў гэты час глядзяць на старонку. «Чатнікі» пастаянна сустракаюцца і па-за межамі Інтэрнэта. Першая такая сустрэча беларускіх чатнікаў адбылася 3 кастрычніка 1996 года пад назвай «Піва № 1».

## Перспектывы

Пакуль асноўная праблема беларускага Інтэрнэта — тэхнічная. Каналы абмежаваныя, а каб падключыць іншыя — няма валюты. Цяпер Белтэлекам патрабуе, каб арганізацыі аплачвалі палову ад сумы паслугаў электроннай пошты і Інтэрнэта ў свабодна канвертуемай валюце. Гэта не зусім адпавядае беларускаму заканадаўству, але такім чынам Белтэлекам спадзяецца атрымаць патрэбную яму валюту.

Дзяржава працягвае ахоўваць сваю манаполію. Прапановы расійскіх кампаніяў па развіцці беларускага Інтэрнэта не маюць адказу. Да таго ж урад адміністрацыйнымі захадамі спрабуе павялічваць сваю прысутнасць у Інтэрнэце. Так, напрыканцы 1997 года Адміністрацыя прэзідэнта сваім пісьмом за подпісам намесніка кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта Івана Пашкевіча абвесціла , што «па даручэнні прэзідэнта размяшчэнне інфармацыі ў сістэме Інтэрнэт павінна стаць адной з прыярытэтных задачаў міністэрстваў і цэнтральных ведамстваў». Таму цяпер міністэрствы, дзяржорганы і нават заводы і фабрыкі заняліся стварэннем сваіх старонак у Інтэрнэце. Але больш хуткімі тэмпамі развіваюцца старонкі Інтэрнэта неафіцыйнага, часта апазіцыйнага да ўрада зместу. Увогуле, цяпер існуе больш за 150 беларускіх сервераў.

Але рост іх колькасці залежыць не так ад высілкаў дзяржавы, як ад колькасці карыстальнікаў Інтэрнэтам. Але пакуль Інтэрнэт застаецца дарагой з'явай для большасці беларусаў, ён тут не мае вялікіх перспектываў. Толькі павялічэнне ўзроўню жыцця і скасаванне дзяржаўнай манаполіі на доступ да Інтэрнэта зможа лёгка і эфектыўна падключыць беларусаў да астатняга свету.

**Алесь ВАСІЛЕВІЧ**

## В МИРЕ

### Четыре с половиной миллиона бюрократов

**Согласно данным германской статистики, из 35,8 миллиона наемных работников в ФРГ 4,6 миллиона человек по восемь часов в день занимаются «бумажной» работой в конторах фирм и учреждений.**

Как показывает практика, этот вид деятельности, где находит свое призвание каждый восьмой работающий немец, в большей степени привлекает женщин. Их в рядах бюрократов 3,3 миллиона, или 22 % от общего числа трудящихся представительниц прекрасного пола. Среди мужчин отношение к «бумажной» работе более прохладное. Этот вид деятельности избрали лишь 6 процентов немецких мужчин.

### И сколько же там звезд?

**Американская газета *USA Today* с огромной радостью сообщает о том, что большинство ее сограждан может точно назвать количество звезд на государственном флаге США.**

Цифру пятьдесят, что абсолютно правильно, назвали 76% из числа опрошенных газетой американцев и 65% американок. Досадно лишь то, что в основном не смогли дать правильный ответ молодые американцы, причем разбежка в ответах составила от 12 до 75. Кстати, в прошлом году та же *USA Today* сообщала, что только 20% взрослых американцев смогли показать на карте, где находится Канада.

### Целая куча змей в контрабанде

**В столице Индонезии Джакарте местным таможенникам в аэропорту удалось захватить контрабандный груз, состоящий из более чем тысячи(!) кобр.**

Как пишет британская газета *Daily Telegraph*, сонные рептилии были «расфасованы» в 54 ящика с надписью «Осторожно: живые угри!». Полиция предполагает, что контрабандисты намеревались вывезти змей из страны в Китай. Именно здесь буквально все части тела этих ядовитых змей идут в дело. Из их яда и внутренностей изготавливаются различные лекарства, а из мяса — самые деликатесные блюда. Продать же живую кобру в Китае можно почти за двадцать долларов.

*Подготовил*
**Михаил ГРИГОРЬЕВ**

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1218 Нумар падпісаны ў друк 04/08/98 (16:01) Наклад — 19.660